# Студэнская думка

## Часопіс беларускага студэнства.






№ 3 (10). ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК ГОД IV.

**Вільня, 1928 г.**

Беларуская Друкарня Ім. Фр. Скарыны, Вільня, Людвісарская 1.

# ЗЬМЕСТ



---

Рэдакцыя зьвяргаецца да ўсіх студэнтаў—Беларусаў, мясцовых і загранічных, з просьбай а прысыланьне матэр'ялаў характару культурна-грамадзкага, навуковага, эканамічнага, літэратурна-мастацкага, сатырычнага, гумарыстычнага,—з беларускага фольклёру, інформацыяў з жыцьця беларускага студэнства і грамадзянства — ў краі і заграніцай, абвесткі і г. д.

Пісаць трэба на аднэй старонцы паперы. Ня прынятыя ў друк рукапісы не зварачваюцца.

Прысылаць рукапісы на адрэс рэдакцыі «Ст. Д.»—Вільня, вул. сьв Ганны № 2, або на адрэс рэдактара кал. Я. Шутовіча—Вільня, Полацкая вул. № д. 4 кв. 10.

РЭДАКЦЫЯ.

---

# Студэнская Думка

Грамадзка-навуковая і літэратурная часопісь Беларускага Студэнства.

Адрас рэдакцыі: Вільня, сьв. Анны 2.

Падпіска квартальна з перасылкай 3 зл.
Цана асобнага нумару . . . . 1 зл.

№ 3 (10) 1928. ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК. 1928. ГОД IV.



* * *

*Народ Наш жыве і жыцьцё як з крыніцы*
*Б'е сільна, на волю шыбае,*
*Ракою магутнай імкнецца разьліцца,—*
*Наш край паўстае, ажывае.*

*Б'е сіла, нам сілы змагацца хапае,*
*Спадаюць нядолі аковы,*
*І сонца вякоў нас усьмехам вітае—*
*Мы ўвойдзема сьмела ў сьвет новы.*

*Да працы браты! — Наш Народ будзе вольны. —*
*Да працы! хай кожны, шшо можа,*
*Ці многа, ці мала, на колькі хто здольны*
*Ў народную скарбніцу ўложа.*

*Хто разам з Народам, тых клічу да дзела!*
*Аковы нядолі Край ськіве*
*І ўпіша ў гісторыю людзкасьці сьмела,*
*Ён ўпіша сваю назву—імя.*

*Аўгені Бартуль.*

# У 10-я ўгодкі.*)

# (1918–1928).

*Беларускае студэнства!*

*У нязвычайна цяжкіх абставінах сустрачаемо юбілей дзесятых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Мэты пакладзеныя перад дзесяцьцю гадамі да сягоньня ня зьдзейсьнены. А што горш, ува ўласных радах адзінага да нядаўна йшчэ фронту беларускага што-раз часьцей знаходзяцца адзінкі, зракаючыяся і нэгуючыя нават так слаўны для Беларусі дзень 25 га сакавіка 1918 году.*

*Больш таго: маладушнасьць несьвядомых кругоў, фальшыва зразумелая і названая Воляй Народу, зводзіць на бездарожжа і найлепшых дагэтуль працаўнікоў, катораыя замест каб іншых вясьці,—самі вясьці даліся.*

*Ня дзіва, што пры такіх абставінах Ідэал Незалежнасьці дагэтуль ня зьдзейсьнены, хоць шлях да яго за гэтых дзесяць (1918 — 1928) мінулых гадоў густа назначаны крывавай пуцінай вастрогаў, судоў, ссылак на роднай Зямлі беларускай, ды магільнымі да таго крыжамі на Бацькаўшчыне і ў далёкай чужыне.*

*Беларускае студэнства!*

*У так важную гістарычна хвіліну зьвяртаемся да Цябе з заклікам:*

*Кожны будзь на сваім мейсцы! — Гэта знача, хто Беларусам і студэнтам чуецца і завецца, будзь такім усюды, скрозь і заўсёды. На-*

*) Гэты маніфэст АБСА быў намечаны да друку ў №2 „Студ. Думкі". Аднак, з тае прычыны, што Рэд. „Студ. Думкі" атрымала яго за позна, ня мог ён, як і іншыя матэр'ялы, прысыланыя АБСА-м, — быць зьмешчаны ў № 2 „Студ. Думкі". Уважаем, што маніфэст ёсьць і цяпер актуальным, — дзеля чаго зьмяшчаем у гэтым нумары нашай часопісі. —Рэдакцыя.

*шаму бо пакаленьню суджана разбудовываць вялікую Будынiну Бацькаўшчыны. А да гэтага патрэбна перадусім глыбокая вера, вера ў сьвятасьць сваіх пачынаньняў, ды бязумоўна—цьвёрдая дысцыпліна.*

*Беларускае студэнства!*

*Пад бел-чырвона-белым сьцягам вучыся пільна і сумленна! Гэтага жадае ад Цябе Бацькаўшчына наша сяньня. А скончыўшы навуковыя прыгатаваньні — кожны і адусюль з тым-жа нацыянальным сьцягам сьпяшайся на родны беларускі палетак. Гэта мэта Твая заўтрашняя.*

*Veritatem sequi et tueri iustitiam!*
*Salus patriae suprema lex!*

*Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў.*

*Прага.*
*24 га сакавіка 1928 г.*

* * * * * * * * * * * * * * * * * * *

*Адважна, брацьця, наперад ідзіце*
*Цьвердай і правай ступою,*
*Кожнаму у вочы сьмела глядзіце,*
*Праўду нясіце з сабою.*

*Карусь Каганец.*



# Ідэал незалежнасьці і беларускае студэнства.

**(З прычыны 10-тых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі —25. III. 1918 г.)**

Перадусім, як выращыць кардынальнае пытаньне: *учасьця* ці *няўчасьця* студэнства ў жыцьці палітычным наагул?

Хай адказ на гэта будзе якікольвек, бязспрэчным заўсёды астанецца адно: *жыцьцёвыя ўмовы датычнага Народу* пры разьвязаньні такога пытаньня павінны быць *на першым мейсцы*. А калі гэтак, дык катэгарычным наказам кожнаму Беларусу павінна быць імкненьне да поўнай *Незалежнасьці* ягонай Бацькаўшчыны, знача *Беларусі*.

Ці беларускі студэнт мае быць пры гэтым выняткам? Не, сто разоў не! Беларускі студэнт мае быць ня выняткам, але прыкладам нацыянальных імкненьняў, *узорам найбольш магчымай ахвярнасьці і адданасьці справе*.

Спэцыяльныя аднак умовы жыцьця беларускага ствараюць студэнству нашаму задачы над усякую меру асаблівыя. Усё-ж разам узятае ставіць вымогу: *каб беларускі студэнт быў сяньня больш як студэнт, каб быў ня тольki сухім кандыдатам фаху, але і дасьпяваючым грамадзянінам з пераканаьня*. Трэба гэтага тым больш, што ў сучасны якраз пераходны мамэнт лічбовая большасьць амаль беларускай інтэлігенцыі — гэта студэнства.

Урэшце ня можа быць задачай гэтых пару радкоў пераконаваць некага аб патрэбе арганічнага спалучэньня паняцьцяў „студэнства" і „грамадзкасьці". Хутчэй-бы хацелася назваць гэта апотэозай сьветапагляду тае часьціны беларускага студэнства, якая не зважаючы на ўсе нявыгады і недастаткі асабістыя, справы грамадзкае, раз узяўшы, не пакідае, ды як хто можа і ўмее — заўсёды чэсна і ахвярна ей служыць.

Ня можа быць ніякага сумліву, што міма ўсе запэўненьні аб непалітычнасьці студэнскіх прафэсыянальных арганізацыяў, беларускае студэнства ня можа і ня сьмее і на мамэнт зрачыся свае адвечнае пуцяводнае зоркі: *Незалежнасьці*. Згэтуль мусіць пачынацца, гэтым кіравацца і вылучна ў гэта можа толькі выліцца кожная жыцьцёвая праява беларускага студэнства. Назаве мо' нехта такія імкненьні нашага студэнства *палітыкай*: хай сабе называе як хоча. Істота справы заўсёды астанецца бяз зьмены: *для Беларуса гэта ёсьць ягонае права, ягоны абавязак*, ад каторага на сьвеце сьмерць толькі здолее адхінуць. Больш нішто!

Прыпаўшыя на сёлета 10-ыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі дзіўны нейкі водгук будзяць у кожным беларускім сэрцы: —10 гадоў Незалежнасьці!

Гдзе яна?

Замест Незалежнасьці—бяздушная круцыята ўсяго сьвядомабеларускага!

Ні зоркі сьвітаньня!..

*Кудой ісьці?!*

Сягоньня пасьля 10-ці гадовай бязьлітаснай школы жыцьцёвай цяжка нават сабе ўявіць той пад'ем духа і грамадзкую разважлівасьць тагачасных Беларусаў, патрапіўшых у свой час здабыцца на акт такой вагі, як Незалежнасьць. Праўда, абставіны... Але як-жа йнакшыя спадзеі дае абраз беларускіх узаемаадносінаў у сучаснасьці! Скажа нехта „поступ", „рост" „дыффэрэнцыяцыя". Але-ж усё мае сваю меру: у даным выпадку натуральныя граніцы ўсенацыянальных інтарэсаў. Пры незахаваньні гэтага ўвесь псэўдопоступ выраджаецца ў сьляпы газард. Найнавейшая мінуўшчына ёсьць гэтага аж вельмі балючым доказам. Хай-жа будзе і навукай!

Гэта адно.

А другое: маемо ўжо досыць у нашым Народзе энэргіі эксплёзыйнай, але не хапае нам энэргіі канструктыўнай. А да гэтага ёсьць паклікана пераважна наша студэнства. Калі перад 10-цю гадамі абвешчаная Незалежнасьць не захавалася, сталася гэта дзеля таго, што ў нас не знайшлося досыць людзей гмах дзяржаўнасьці *падтрымаць*. Маладая генэрацыя празначана да таго, каб нашай Незалежнасьці ўмела класьці ня толькі фундамант—ён ужо паложаны,—але і будаваць сьцены, крыць страху, ды ўрэшце гатовую будыніну належна даглядаць. Гэта ёсьць задачай маладога пакаленьня наагул і студэнства асабліва.

Ці наша студэнства ўжо да гэтага дарасло?

Ня так важным пакуль-што будзе просты на гэта пытаньне адказ, колькі ягоная антытэза: *пакуль студэнства беларускае не займе свайго мейсца ў жыцьці як нацыянальным, так міжнародным, датуль будова нашае Незалежнасьці ня будзе дакончанай.*

а) У жыцьці *нацыянальным*: ці прадстаўляе наша студэнства запэўнены кадр новых, нацыянальна сьвядомых працаўнікоў? І *так* і *не*!

*Так*, бо з пасярод сяньняшняга студэнства вырастуць бязумоўна барацьбіты за ідэю. І *не*, бо... пры сучасным en gros прадукаваньні інтэлігенцкіх сілаў усякія адпадкі няўнікнёны. Больш таго: жыцьцёвае дазнаньне сьведчыць досыць вымоўна і аб тым, што выпадкі, калі з пасярод беларускага студэнства прыгатаўляюцца добрыя „кандыдаты на пасачы", эвэнтуальна „малую мэбэль" не зьяўляюцца ўжо так адзіночнымі толькі выняткамі...

Усіх задачаў, якіх вырашэньня ад беларускага студэнства ў жыцьці ўнутрана-нацыянальным чакаць трэба,—пералічыць тут немагчыма. Галоўныя будуць менш-больш гэтыя:

Перадусім даць трэба заўсёды пяршынство грунтоўнасьці перад павярхоўнаю плыткасьцю, усюды, а асабліва ў навуцы, пры распрацаваньні сьветапагляду і г. д. Нельга пры гэтым абмінуць ужо цяпер тае праўды, што будучая нацыяналізаваньне ўсяго жыцьця ў краі будзе базавацца не на чым іншым, як на выробленасьці і конкурэнцыйнай здольнасьці, вышшасьці беларускага духа над духам чужым, у нас сяньня ўсемагутна пануючым.

На адрэс студэнства нашага вучачагася заграніцай трэба з цэлым націскам прыпомніць і паказаць на рожніцу паміж студыявань-

нем і... копіраваньнем: сьцеражы Божа, каб кожны з нашых студэнтаў захацеў на роднай глебе прышчапляць усё без намыслу, што бачыў і прыгожа хоць-бы цьвітучым на глебе чужой, гэтулькі ад нашай розьнячайся.

Прычыніцца трэба, колькі можна, да падняцьця роўні духовага жыцьця народнага ўва ўсіх ягоных праявах.—Гдзе ў нас сяньня пачуцьцё пашаны перад аўторытэтам (шмат хто гэтага сусім „не прызнае"), працаю, дысцыплінай, правам? Гдзе пашана перад старшымі, калі лёс некага паставіў у незалежнасьць ад гэтых старшых? Гдзе цьвіце яшчэ ў нас цудная кветка ўдзячнасьці? Словам — гдзе ў нас усё тое, што называецца культураю духа? Трэба нам гэтага вельмі, каб пераканацца, як шырокія народныя масы ўласныя, так і адпаведныя чыньнікі міжнародныя аб тым, што паняцьці „беларускасьці" і, даруйце, „хамскасьці" даўно перасталі быць сынонімамі, калі такімі калі-небудзь наагул былі.

Студэнства, як частка народу, вызначаецца флюктуацыяй свайго характару. Істнуе заўсёды, бязупынна. Выходзячы з залажэньня, што ўсё істнуючае мае сваё празначэньне, ці йнакш, рацыю быту, прызнаць трэба, што мае гэту рацыю і студэнства: яно заўсёды празначана йсьці ў авангардзе свайго народу, каб так вышукаваць з пасярод блудных зыцьцёвых сьцежак і шляхоў шлях свайму Народу адпавядаючы.

У гэткі магутны паход выйшла ўжо і студэнства беларускае пад нацыянальным сьцягам „Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў". Хто працай і мэтаю гэтага „Аб'яднаньня" цікавіцца і мае добрую волю, незалежна ад рэлігійных і палітычных пераканаьняў, да яго належыць—будзь у крузе „Аб'яднаньня"!

Змагчы ўсё ў час патрапяць толькі аб'яднаныя сілы. Вялікае і пляновае зьбіраньне нацыянальна сьвядомых сілаў пад сьцягам „АБСА" ужо пачалося і вядзецца інтэнсыўна. Новага пачынаць у гэтым кірунку нічога ня трэба і нельга. Падтрымаць трэба толькі працу пачатую. Хай ня будзе дзеля гэтага ніводнае акадэмічнае душы беларускае, каторая-б засталася йшчэ асабняком.

Коопэрацыя ўсяго сьвядомага студэнства беларускага на аснове аполітычнай профэсыянальнасьці хай будзе першай і найбліжэйшай задачай кожнага.

Гэтулькі аб студэнскай працы на сэктары жыцьця ўнутрана-нацыянальнага.

б) У жыцьці *міжнародным*: яно (жыцьцё) ёсьць самым толькі паказальнікам інтэнсыўнасьці жыцьця ўнутранага і ад яго ў першай меры залежа.

Гэта найважнейшыя сяньня пляцоўкі працы студэнскай, **тут мейсца ўсяго беларускага студэнства!**

*А. Коўзан.*

*Ст. Грынкевіч.*

# Аб прывычцы ў самаўзгадаваньні.

Характар у чалавека-адзінкі, чалавека-народу, чалавека-дзяржавы—гэта ўсенька. Тутака й шчасьце, бяздольле, мадзеньне бязконцае й дзейнасьць кіпуча-карысная. Прысутнасьць ягоная, ці адсутнасьць — асноведзьдзю ўсіх магчымасьцяў. Цяпер асабліва, калі ўсюды ў нас плоймы злыдняў-зданьняў лунаюць, агортваючы сьветлыя ідэалы йлжою, трэба змагацца, трэба клікнуць усю магутнасьць характару, бараніцца ня перад сумляваньнямі аб праўдзе нашага шляху, а перад тым, каб ня згубіць яго, каб не расьцярушыцца ў штодзеншчыне, каб ані на хвіліну не апынуцца з пытаньнем: „ці так?“ „дзе ён,—наш шлях?“ а магчыма па чарзе й „нашто, пашто“, а потым і сапраўды, каб не застрагнуць у жыцьцёвай дрыгве-трасіне. Боязна, каб яна — дрыгва—нас не засмактала!! Гляньма на маразм у сучасных валадароў сьвету, ці нашых суседзяў!—Каб нам ня бачыць на сабе гэткае заразы!!

Найвялікшы ідэал нічога,—калі і пакуль мала робяць дзеля зьдзейсьненьня яго. Ён будзе сам у сабе без пераменьі, не паменшае, не пагоршае, ды й мы ад яго будзем адступаць, а не падыходзіць, калі абмяжуемся лятуценьнямі, прыгожымі гутаркамі, ці бядульлівымі сказамі аб сучаснасьці.

Нам трэба дужых, цьвёрдых людзей, а не расхістаных ды страгнучых у плыткасьцях.

Хай падумаюць, у каго сэрца яшчэ не астыла, яшчэ адклікаецца на згукі шырокія, думкі вялікія, што да сьвятое—вялікае справы трэба ўзгадаваць, дагадаваць сябе. І тыя знойдуць мо' ў ніжэй паказаных словах шмат спасьцярог, якія, не замінала-б, каб ведалі ўсенькія.

— о —

Кажам аб добрых і благіх звыках, больш цямячы на кірунак благога. Кажама аб звыку п'янства, кляцьбы,—а менш думаем аб звыку памяркоўнасьці, цярплівасьці... Аднолькаваж розьніцы сапраўднае, глыбокае паміж цнотамі, а пахібамі, благімі старонамі характару ня ўбачыма. Жывема мы з бязумоўнаю прысутнасьцю волі ў сабе, волі—дык знача незалежнага, самахотнага выбару гэткага, ці іншага дзеяньня,—ды не заўсёды „вольная воля“ паказуе сябе. Вялікая частка ўсенькіх людзей жыве хутчэй імпульсамі, залежна ад прывычкі казаць гэтак, ці рабіць, залежна ад нахілу прыроднага, ці ўзгадаванага. Прывычкі, звыкі, нахілы—вось дзякуючы чаму немагчыма нам быць іншымі, калі-б мы й хацелі бачыць у сабе іншую, лепшую рэакцыю на ўсе магчымыя праявы жыцьця.

У прывычцы, зьявішчы звыкаў—адначасна шчасьце з няшчасьцем. Дзякуючы ім перад намі бясконцы шлях не парываў, а напру-

жаньня, без чаго трывалае будучыні няма. Парывамі жывуць хвіліны; жыцьцё, стагодзьдзе хаця й мераюць хвілінамі, ды гэта ня тое самае. Быць волатам—героям на хвіліну, кажуць, лягчэй, чымся шэрым змагаром чуняць адзін год. — Гэтыя прывычкі праклёнам будуць, калі з благое крыніцы яны ў нас!

Зьявішча прывычкі абаснавана мо' на тым, што сьвядомыя нашыя падзеі, ды ўсе агулам магчымыя, пачынаюцца ў нэрвовай сыстэме. Свомасьць аднолькава й нэрвовага каліўя і цэлае сыстэмы—гэта адказ на раздражненьне. Адказ гэты або будзе рэфлексам, або сьвядомаю праяваю рознаякае дзейнасьці. Свомасьць, у якой практыкаваньні зробяць нешта, перадом хто казаў-бы немагчымае. А гэта дзякуючы плястыцы мозгавае тканівы. У ёй быццам пратоптваецца дарожка, цярэбіцца пуцявіна, па якой новая адказная дзейнасьць выявіцца хутчэй, лягчэй, а паждаўшы тая самая дзейнасьць, на якую трэба было напружаньня вялікага, цяпер у нас—маўляў просты хрыбетны рэфлекс, рэфлексная дуга.

Дзеля таго й кажуць, што звык — гэта нашая другая натура, а льга было-б казаць — што яшчэ больш. Прывычкі могуць здужаць, паняволіць і натуру, прыродныя нахілы. Дзевяцьдзесят дзевяць і дзевяць дзесятых усяго, што мы робім, гэта з прывычкі, ня думаючы зусім. Мы ведаем, што робім устаючы, апранаючыся, потым кратаючыся ўвесь дзень, і кладучыся адпачываць, аднолькава-ж гэта ўсё аўтаматычныя рухі. Рэфлекс з канцавін нэрваў на калені, ці пятцы, а гэткія дзеі суседуюць з сабою калі ня ў тэорыі, дык у сапраўднасьці.

Нешта немагчымае было б у тых людзей, якім трэба надумляцца, ці сядзець цяпер ці стаяць, курыць ці не, кладавіцца, ці яшчэ не і г. д., гэта-ж мука нявыказная, такія сумляваньні прадусім забіваюць, адбіраюць характар, выкідаюць такога чалавека з ліку працаздольных адзінак, ён быў-бы ў нас хворым, псыхопатам.

Мы ўсенькія —ня думаючы— гэткія практыкаваньні наладжваем змалку ўжо. Маці з бацькаю першыя нам настаўнікі, хатнія абставіны ўкладаюць нас да рэакцыяў такіх ці іншых, потым равесьнікі, іхні капітал моральны й толькі ў пару сьвядомае думкі собскае, у пару дасьпяваньня ўсебаковага, мы сьвядома самі пачынаем укладаньні. Стульна ўвесь час злучаны з сабою ўкладаньні фізычныя—ад вельмі простых, як хадзьба, да вельмі заблытаных умецтваў штукарства. Бяспынная аналёгія хай нас тутака навучыла-б аб тых неабмежаваных магчымасьцях звыкаў.

Добрыя бацькі, добрыя настаўнікі часта дадуць такую аснову маладзіку з хатняга й школьнага ўзгадаваньня, што лёгка яму потым стаяць на сваём шляху і ня трэба рабіць адумысловых ахвяраў, каб прышчапіць сабе карысную ці неабходную мо' прывычку. Ня шмат будзе гэткіх шчасьлівых!..

Прафэсар Бэн паказвае некалькі правілаў вельмі карысных таму, хто хоча нешта з звыкаў кінуць, а збагацець новымі прывычкамі.

Першае—хочучы зьдзейсьніць або адно або другое, ці абодвыя жаданьні аднačасна, *трэба пастановы рабіць з усею дужасьцю і непа-*

*рушчасьцю энэргіі ў нас магчымге.* Уяўляйма сабе ў гэткія хвіліны ўсе абставіны, якія памагчымасьці будуць спагаднымі нашым пастановам. Прыдбайма іх такімі, калі нам будзе лягчэй вытрываць у новых прывычках, ці забыцца аб старых. Напружвайма ўсю сілу, каб ня мінуць і першае нагоды, дзе трэба паказаць перад сабою й людзьмі новыя рысы характару. Перад людзьмі дзеля таго, што лягчэй трываць з пастановаю нейкаю, памятуючы, што людзі сочаць за мною й зробяць прысуд, калі будуць ведаць, што я йнакш кажу, а йнакш раблю,—бачучы мае спробы адхіліцца ад зробленых пастановаў.

Другое правіла — *ніколі не рабіць выключнасьцяў, пакуль новая прывычка намі не заваладае,* пакуль яна для нас ня будзе неабходнасьцю. Тое самае што з клубком ніцей: навіваем, навіваем, а як упаў, дык ня хутка наўем назад тое, што было ўжо, ня кажучы аб пабольшаньні. Бязспыннасьць навытару й у сыстэме нэрваў, як ведаем, мае значэньне вялічэзнае. Тое й тутака. Раўнуючы прывычкі моральныя рознаякастнага напрамку з ворагамі-змагальнікамі, праф. Бэн кажа: „*найвялікшым нашым імкненьнем у дасяганьні ідэалу ў гэнай галіне — гэта такі тасунак вышэйпаказаных ворагаў, каб у аднаго былі адна за аднэю перамогі, пакуль навытар у іх абдужае нас настолькі, што нягледзячы на ніякія запыні, заўсёды зробіма што належыць ад нас.* Сапраўды, гэта адзін магчымы шлях поступу духовага.

Калі ня шукацімем нагоды, каб узмацаваць свае здабычы,—карысьці з пастановаў ня будзе. Чалавек мерацімецца й самым пад канец дзён сваіх і нашчадкамі, што будуць па ім, не шляхотнымі прынцыпамі, якія меў, ня тымі лятуценьнямі, ад якіх манілася яму, ён пакідае зямлю й лунаючы над ею, забыўшыся на ўсенька, робіць максімум. Самая лепшая пастанова, шляхотная думка, калі бяз выпладу астанецца, не пакіне рэальнага рэзультату—горш яшчэ чымся-б іх зусім ня было. Пры другой аказіі думка аб здрадніцтве колішнім ня дасьць магчымасьці выявіцца ўсенькай патрэбнай дужасьці. Бязсумліўна, няма больш благога чалавека, чымся бязвольны, сэнтымэнтальны лятуценьнік, які шмат і прыгожа, вельмі прыгожа гавора, а сапраўды дык ніколі нічога як сьлед па мужчынску не зрабіў.

Вельмі цікаўна паўслухацца на тое, што кажа Дарвін, дзе як ня трэ' лепш паказвае сілу навытару — прывычкі: „Да трыццатага году, ці пазьней яшчэ, я вельмі любіў паэзію; быўшы яшчэ вучням, я ўжо захопліваўся Шэкспірам, асабліва-ж ягонымі драмамі гістарычнымі. Любіў я калісь і малярства, а музыка была мне насалодаю раскошнаю.

Цяпер ніякім чынам ня здолею прымусіць сябе, каб прачытаць абыякі верш. Узяў я прачытаць Шэкспіра, гэткі прыдаўся ён мне мляўкі, што й ахвота прапала. Няма й колішняга захапленьня перад малюнкамі, музыкаю... Здаецца мозаг мой цяпер быццам нейкая машына для формуляцыі законаў агульных з дзеяў паасобных; уцяміць не магу, дзеля чаго аднолькава-ж нядзе счэзьлі тыя часьці мозгу, якімі я ўяўляў прыгожасьць...

Калі-б было магчыма нанава жыць - перажыць, — правілам, неабходнасьцю мне было-б прачытаць крышку вершаў, паўслухацца на

мілазычныя згукі музыкі, прынамся раз на тыдзень; мо тады тыя часьціны мозагу, якія чэзнуць цяпер, былі-б здаровыя, рэагавалі-б на ўсенька. Ня маючы тых спадобаў, ня маю я й таго шчасьця, якое ёсьць у кожным прыгожстве; дзякуючы гэнай нястачы розум мой мо' ня будзе гэткім пруткім у будучыне, шкада й майго характару, бо дзеля гэтага не расьце ў ём старана пачуцьцёвая".

Шмат хто з маладых з гарачаю, прагавітаю душою на ўсенька, чым жыве, дыхае думка чалавецкая, бачыў сябе й у будучыне далёкай заўсёды маладым, бо-ж моладасьць не гадамі трэ' мерыць, а пруткасьцю, жывадзейнасьцю душы. А ён уяўляў душу сваю вечна кіпучаю, з смагаю таго, што добрае, прыгожае...

Усе інтэлігэнты, якім часта трэба абмяжавацца ў сваей адумысловасьці, кажуць—пакуль яшчэ небасхіл іх вялікі,—што ўсенькія галіны чалавецкае думкі чужымі ім ня будуць.

Ці шмат аднолькава ж паміж намі тых сапраўды вечна маладых, ці прынамся людзей, якія не астаюцца з-заду ад поступу, якія сочаць за меркаваньнямі й здабычамі дужэйшых за іх, што самыя цярэбяць шлях да заўтра?!

Ня шмат, вельмі іх мала. А чаму так, бачыма добра з правілаў прывычкі. Якая што ніна ёсьць вялікая зацікаўленасьць, калі не карміць усё новаю й новаю стравою—змадзее, прападзе ад напору штодзенных, шэрых прывычкаў. Мы шчыра цяпер хочам, каб усё, што толькі хапае за душу цяпер, назаўсёды з намі было, ды нічога дзеля гэтага ня робім, ня кратаемся, каб зацікаўленасьць была нашаю прывычкаю а ня плыткія нахілы. Трэба пачынаць навытар ад сёньня, а ў нас калі й думаем аб укладаньні, дык і то пакідаем на заўтра. А дабра, перамогі няма без напружаньня, змаганьня мо' ня лёгкага пачаткова.

Тыя, што мелі магчымасьць паглядзець на сыноў усходу—Індусаў — і параўняць іх твар з эўропэйскімі, не маглі надзівіцца нейкай шляхотнасьці, якую ў іх бачылі, паважнасьці, розуму, вялікай інтэлігэнцыі ў людзей без асьветы. А яно ня так ужо, каб заблытаны быў адказ. Тутака. Жывуць яны больш па чалавецку, чымся мы, прывыклі штодзень, хай некалькі хвілін, падумаць аб найбольш патайных пытаньнях, імкненьнях сваіх. Гэта-ж у іх бацкаўшчыне мэтоды перамогі над сабою, ці, лепш казаць, над плыткімі сваімі нахіламі, эьдзейсьнілі верх дасканальнасьці. А ўсяму прычына — штодзенны, бязспынны навытар у напрамку зробленых пастановаў.

І таму ня трэба аглядацца за чым вялікім, каб паказаць сабе, што я не драмлю, а чуняю, іду наперад, а карыстаць з таго, што кожны дзень нам дае. Нагодаў штодзень, напагляд вельмі малых (бо ў сапраўднасьці яны-ж усенька), шмат. Гэта, як кажуць, будзе нейкая адносна самых сябе „штрахоўка". Пакуль што будзем плаціць і плаціць сваімі змаганьнямі, аж прыдзе й тая часіна, калі карысьць уявіцца прад намі. Будзе такая пара, калі маланкі й перуны жыцьця справядлівага ды бязміласэрнага будуць грукацець нада мною, а я непарушны буду, усе-ж людзі хістацца, дрыжэць, што лісьця ад ветру на дрэвах. Шлях шырокі, вялікі прад намі, памятайма й ня дляймася!

*В. ОРЭЛЭЦЬКІЙ.*

# Украінска - беларускія студэнскія узаемаадносіны*).

У краінах, дзе быў і ёсьць вялікі ўціск чужацкіх уладаў, студэнскі рух быў заўсёды на сваім мейсцы і спаўняў свае задачы. Пад гэткім рухам разумею змаганьне данага студэнства за палепшаньне долі свае Бацькаўшчыны. Гэткім спосабам студэнства ўлівалася ў рады старэйшага грамадзянства і тварыла часта змагальны авангард за культурны і эканамічны дабрабыт свайго народу. У першай чарзе маю тут на ўвазе студэнства недзяржаўных нацыяў, або такіх народаў, якія часова загрожаны ў сваёй палітычнай незалежнасьці.—Прыклад з гісторыі: калі Наполеон падняволіў Нямеччыну, то нямецкае студэнства ўзяло на сябе львіную часьць барацьбы за волю свайго народу. Перад сусьветнай вайной чэскае студэнства з неабмежанаю энэргіяй змагалася за волю свайго народу супроць Аўстрыі, украінскае студэнства нястрымана змагалася (у аўстрыяцкай і расейскай Украіне) за слаўную долю Украіны. Усе спрэчкі ўкраінскага студэнства з польскім студэнствам у Львове заўсёды канчаліся крывава. Першы зьезд украінскага студэнства з аўстрыяцкага і расейскага забораў адбыўся ў 1908 годзе. Гэты зьезд паклікаў да жыцьця ўкраінскую студэнскую цэнтралю. Гэная арганізацыя была прадвесьнікам цяперашняга Цэнтральнага Саюзу Украінскага Студэнства („Цэсус'а"), які паўстаў у 1922 г. у Празе, дзе мае сваё тымчасовае мейсца прыпынку. Незадоўга па зарганізаваньні ў Празе Чэскай „Цэсус'а" нарадзілася там-жа і беларуская студэнская цэнтраля „АБСА".

Перад сусьветнай вайной студэнскага руху ў вялікім маштабе ня было. Істнавала толькі „Corda Fratres", прадвесьнік цяперашняе „CIE", і сусьветная фэдэрацыя хрысьціянскага студэнства „World Students Christian Federation"—заснаваная ў 1895 г. у Швэцыі. У часе вайны занікла „Corda Fratres" і на яе мейсца прышла „CIE". Апроч гэтага паўсталі іншыя яшчэ міжнародныя студэнскія арганізацыі, як „Pax Romana" (каталіцкая студэнская фэдэрацыя), Саюз Соцыялістычнага студэнства, Эўрапэйскі Фонд дапамогі, або цяперашняя Міжнародная Студэнская Помач і інш. Вось-жа студэнскі рух шырокага размаху набраў толькі па сусьветнай вайне. Разбуджаныя з доўгага сну Украіна і Беларусь кінуліся будаваць сваё лепшае жыцьцё. Але гістарычная Нэмэзіс стрымала гэтыя дзьве краіны на палове

*) Гэтую стацьцю напісаў Старшыня Аб'яднаньня Украінскіх Студэнскіх Арганізацыяў, вялікі наш прыяцель і энэргічны змагар за правы ўкраінскага і беларускага студэнства на міжнародным форуме — В. Орэлэцькій. З яго-ж згоды ператлумачыў стацьцю з украінскага рукапісу і прыслаў з Прагі ў Рэдакцыю „Ст. Д." Сэкрэтар Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў — Фр. Грышкевіч. Аб вартасьці стацьці ня можа быць і гутаркі, хіба кожны чытач спасьцеражэ яе. — Рэдакцыя.

дарогі да свае палітычнае і культурнае самастойнасьці. Наступіў агульны крызыс і паваеннае ліхалецьце ў нашых родных краінах. Нашае студэнства змушана эміграваць за межы Бацькаўшчынаў. Толькі маленькая частка засталася ў роднай хаце, якую цяпер павялічвае маладзейшае пакаленьне. Але на эміграцыі студэнства не гультавала; яно адразу кінулася да студыяў і да культурнае барацьбы за вызваленьне сваіх родных краінаў з пад чужога ярма. Тут якраз на эміграцыі пачалося тое сэрдэчнае супрацоўніцтва, тыя братэрскія ўзаемаадносіны між украінскаю і беларускаю студэнскаю моладзяй. Галоўны цэнтр эміграцыі нашага студэнства — гэта Чэская Прага, гэта Славянская Мэкка. Тут-жа і знаходзяцца нашыя абедзьве цэнтралі, якія галоўным чынам рэгулююць і пасіляюць супрацоўніцтва беларускага і ўкраінскага студэнства.

Гэтае супрацоўніцтва выражаецца ў першай меры ў тым, што студэнства ўкраінскае і беларускае стварылі сабе супольны дапамагаўчы Камітэт, каб умагчыміць сабе студыі, а далей — стварыліся розныя статутовыя, культурныя ўкраінска-беларускія студэнскія арганізацыі. Сталая замена часопісямі і частыя супольныя ўкраінска-беларускія студэнскія сходкі родняць нас паміж сабою. Цеснае і брацкае супрацоўніцтва ўкраінскага і беларускага студэнства кінулася ў вочы і дзяржаўным дзейнікам, галоўна ў Чэхаславаччыне, якія ўмелі ацаніць нашыя імкненьні: скончыць студыі і працаваць для сваіх народаў. Перадусім залежала нам тут, каб даць адпор супольнымі сіламі нашым няпрошаным апякунам — Маскалям, якія заўсёды стараліся і стараюцца шкодзіць сьвятому ўкраінскаму і беларускаму вызвольнаму імкненьню. Гэта быў наш супольны ўнутраны фронт.

Але прыйшоў час і беларускае студэнства выступіла на міжнародны форум: — 1926 год — у Празе „АБСА“ прынята ў СІЕ. З гэтай хвіліны беларускі студэнт вышаў актыўна на міжнародную арэну. Ужо самы факт зьяўленьня беларускага і ўкраінскага студэнства ў сям'і зарганізаванага студэнства цэлага сьвету ёсьць не да параўнаньня вялікім плюсам ня толькі для беларускага і ўкраінскага студэнства, але так-жа для Украіны і Беларусі. Ня мусім забываць, што мы студэнты недзяржаўных нацыяў маем шмат балей задачаў, як студэнства зарганізаваных дзяржаўных нацыяў. Мы мусім прарываць хмару непаінфамаванасьці чужынцаў аб нашых родных Краінах і бараніць нашыя студэнскія і культурныя дамаганьні. Трэба выпрацовываць сваю ўласную тактыку на міжнародным форуме, бо ня маем за межамі сваіх актыўных прадстаўніцтваў, якія пракладалі-б нам дарогу і палегчылі-б нашую незавідную працу на міжнароднай трыбуне. Маемо шмат ворагаў, якія шкодзяць нашай працы паміж чужымі нашымі калегамі. Але не ўдаецца ім здыскрэдытаваць нас прад чужынцамі! Галоўна славянскае студэнства заўсёды варожа ўспасоблена на міжнародным студэнскім форуме да працы Украінцаў і Беларусаў. Вось дзеля гэтага ў славянскіх студэнскіх згрупаваньнях амаль ніколі нашых прадстаўнікоў няма. Але і славянскае студэнства прыходзіць нарэшце да зразуменьня, што ўжо трэба назаў-

сёды папрашчацца з утопіяй маскоўскага псэўда-панславізму і стаць на шлях рэальнага супрацоўніцтва дзеля стварэньня праўдзівага славянскага аб'яднаньня, дзе Украінцы і Беларусы найдуць сабе належнае мейсца. Да гэтага прычыняецца наша актыўнасьць на міжнародным форуме і наша рэальная праца для сусьветнага студэнскага вогулу. Ня лёгкія нашыя задачы! Аднолькавая доля нашых Краінаў загадуе нам заўсёды йсьці разам і працаваць для дабра нашых калегаў і Бацькаўшчынаў. Ужо за намі Рым, а ў гэтым годзе —Парыж. Мусімо дакончыць тое, што пачалі ў Рыме, а іменна: вырашэньне справы нашых высокіх школаў пад Польшчаю, рэпатрыацыю і нострыфікацыю нашых студыяў. „СІЕ" не змагла нас поўнасьцю задаволіць у Парыжы, гэта знаем, але ўсё-ж такі нешта здолеем зрабіць.

Студэнская эміграцыя радзее. Абсольвэнты вяртаюцца на ўкраінскія і беларускія абшары і там уліваюцца ў кадры грамадзкіх працаўнікоў. Але наша праца на чужыне не пайшла на марна! Яна прынясе шмат дабра нашым Бацькаўшчынам. Украінскі і беларускі студэнт павінны сябе заўсёды добра разумець і сэрдэчна паважаць. Гэта ёсьць зарука на шчасьлівую і брацкую будучыню між Украінаю і Беларусяй. А тыя, што застаюцца йшчэ за межамі,—хай прадоўжываюць шчасьліва сваю працу, як на ўнутраным, так і на вонкавым фронце.

Прага, 1928 год.

*МІК. ІЛЬЯШЭВІЧ.*

# Ян Гэнрых Пэсталёцы.*)

Імя Пэсталёцыя, вялікага пэдагога, для нас Беларусаў павінна быць асабліва дарагім і блізкім у сучасным змаганьні за родную й перадусім агульна пачатковую школу. А таму трэба з асаблівай увагай і пашанай аднесьціся да гэтага, узапраўды першага модэрнага закладчыка соцыяльнага выхаваньня, у сотыя ўгодкі ягонае сьмерці.

Ян Гэнрых Пэсталёцы нарадзіўся 1746 г. у Цурыху (Швайцарыя). Ужо ў маладых гадох ён страціў свайго бацьку, а таму далейшае выхаваньне належала матцы, якая пакінула значныя рысы свае жаночае павагі. Пэсталёцы дужа рана захапіўся жаданьнем палепшыць дабрабыт свайго швайцарскага народу, а калі-ж падужэў настолькі, каб прыступіць да зьдзейсьненьня сваіх ідэалаў, — закладае

*) Артыкул гэты быў пісаны да 100-ых угодкаў сьмерці вялікага пэдагога Пэсталёцыя, аднак з тае прычыны, што часопіс ня выходзіла, друкуецца амаль з гадавым запазьненьнем. — Рэдакцыя.

прыкладнае гаспадарства ў Нэўгофу. Аднак у хуткім часе переменьвае яго (1774) ў прытулак — школу для жабракоў, якіх хацеў выхаваць і прыгатаваць гэткім чынам для жыцьця. Ён вучыць іх працаваць у полі, агародзе, навучае таксама рамёслам. І вось Пэсталёцы, сам у вялікай меры жабрак, жыве сярод амаль 50-ёх дзяцей жабракоў, каб вучыць іх для агульна-людзкага дабра. Але з гэтак узьлюбленай справай пэдагогічнай, новага сыстэму—ўпрост рэвалюцыйнага ў тыя часы, ён праз пяць гадоў разстаецца, бо матэр'яльныя варункі вясьці яе далей не дазвалялі.

Тагды ў працягу двух дзясяткаў гадоў займаецца Пэсталёцы літэратурнай працай, думаючы аб той хвіліне, калі настане ізноў мамэнт рэальнае дзейнасьці. У 1780 г. Пэсталёцы выдае невялічкі твор пад назовам: „Вечар пустэльніка“ (Abendstunde eines Einsiedlers), у якім выкладае, у выглядзе афорызмаў, свае думкі на выхаваньне. Потым піша і выдае вясковы раман для народу — пэдагогічнага значэньня: „Лінгард і Гэртруда“ (1781); „Бейкі“—зборнік сатыраў на палітычныя і грамадзкія ўзаемаадносіны таго часу. Сваімі ранейшымі практычнымі спробамі ўзгадаваньня, а потым і сваей літэратурнай працай, Пэсталёцы здабыў сабе вялікую славу і популярнасьць ня толькі ў краі, але й за межамі. Швайцарская ўлада даручыла тагды яму выхаваньне сіротаў у м. Стансу, а потым прадаўжае сваю працу ў Бургдорфу, гдзе сваю чыннасьць разшырыў значна.

Ля прытулку-школы закладае інтэрнат і нават папаўняе школу новым складам пэдагогічных памоцных сілаў. Будучы вучыцелем, Пэсталёцы піша аб выхаваньні, аб падставах выхаваньня ў школе й хаце, што выявілася ў творах: „Як Гэртруда вучыць сваіх дзяцей“ і „Кніга матак“.

Калі-ж палітычныя варункі ў Швайцарыі зьмяніліся, Пэсталёцы дастае ад бэрнскае ўлады замак у Мюнхэнбухзээ, а потым перабіраецца ў Іфэрдэн (Iverden), гдзе ў замку Карла Сьмелага закладае інстытут для выхаваньня бязпрытульных дзяцей. Гэтая апошняя ягоная праца, узгадаваньне дзяцей у Іфэрдэну, ня была сусьветнага значэньня і разгалосу ў тыя часы. Сюды зьязджаліся з усіх канцоў Эўропы розныя вучоныя, палітыкі, духоўныя асобы, нават каралі і цары, — пабачыць на нябывалы экспэрымэнт у выхаваньні. Аднак большая частка гэтых цікаўцаў не ацаніла яго працы, многія аднесьліся з скэптыцызмам да ўсяе гэтае школьнае сыстэмы, а некаторыя проста аднесьліся варожа. Пасыпаліся розныя памфлеты, сьмешкі, — што „іншым памагае, а сабе памагчы ня можа“ і г. д. Зусім натуральна, што пры гэткім адношаньні Пэсталёцы, ужо ў гадах, ня мог прадаўжаць сваю справу, агульна-людзкага значэньня. Асабліва перашкаджалі ў працы частыя агледзіны чужынцаў, унутраныя сваркі памацнікоў, варожасьць духавенства. 1825 г. новазаложаная інстытуцыя мусіла зачыніцца. Гэтакая няўдача моцна падзеяла на Пэсталёцыя і ён напісаўшы „Лебядзіную песьню“ (der Schwanengesang), у якой разьвіў пагляды на падставы пэдагогікі, апіраючыся на сваёй дасьледжанасьці, памёр у 1827 годзе.

З гэтага кароткага біографічнага нарысу відаць, што Пэсталёцы быў муж больш хутчэй палкага чуцьця, чымся розуму; больш практык, чымся тэорэтык, які ўсё сваё жыцьцё і здольнасьці аддаў агульнай справе. Гэта быў надзвычайны чалавек, які першы з пэдагогаў высунуў пытаньне й ў практыцы выявіў патрэбу агульнага ўзгадаваньня, г. ё. бяз розьніцы нацыянальнасьці, клясавага паходжаньня і полу.

Да Пэсталёцыя, дзейнасьць якога прыпадае на канец XVIII і пачатак XIX стагодзьдзя, выхаваньне насіла характар арыстократычны, прадстаўнікамі якога ў пэдагогіцы зьяўляюцца Лок і Руссо. Праўда, ужо Аміс Комэнскі ў пачатку XVII ст. кінуў кліч соцыяльнага выхаваньня, але гэты кліч не дайшоў да шырэйшых кругоў и ў практыцы зусім не стасаваўся. Потым філёнтрапістыя (Басэдаў, Зальцман) рабілі спробы падайсьці да распаўсюджваньня ідэі соцыяльнага выхаваньня, але ў рамках ізноўжа мяшчанскае клясы. Усе яны былі толькі папярэднікамі вялікага пэдагога Пэсталёцыя, які зусім адкінуў арыстократычны індывідуалізм у выхаваньні. Ён хацеў, каб грамадзянства й дзяржава ўзялі дагляд над выхаваньнем моладзі, бо выключна хатняе выхаваньне й ёсьць прычынай той, якая спараджае нахілы да індувідуальнага пераважаньня павагі ўзгадавальніка. *Выхаваньне*, паводле Пэсталёцыя, *мусіць быць у грамадзянстве, ісьці праз грамадзянства і служыць для грамадзянства.* Але памыліўся-б той, хто хацеў-бы бачыць у Пэсталёцыя выключна імкненьне да космополітызму альбо інтэрнацыяналізму ў сучасным разуменьні. Клаў вялікую ўвагу Пэсталёцы й на мамэнт нацыянальнага ўзгадаваньня, аднак ён ня так яскрава выўлены, як мамэнт соцыяльны. Пэсталёцы выўляў думку, якая сталася ў пэдагогіцы аксыёмаю, што *вучыцца чужых моваў ня можна ў дзіцячым узросьце— да тае пары, пакуль дзіця не апанавала сваёй матчынае мовы.* На жаль гэты мамэнт, які падкрэсьліваў сто год таму Пэсталёцы, ня ўсюды стасуецца ў адносінах да дзяцей. Палітычныя махлярствы людзей з душой tabula nigra зацямняюць тыя агульна-людзкія неад'ёмныя правы, за ідэалы якіх людзі аддавалі ўсё жыцьцё. Можна было б многа пісаць аб тых элемэнтах Пэсталёцыявае дзейнасьці пэдагогічнае, але гэта завяло-б нас у галіну спэцыяльнае пэдагогікі. Нам важна адказаць на пытаньне: — чым ёсьць Пэсталёцы для нас Беларусаў?

Вось-жа ў сучасную цяжкую хвіліну змаганьня за родную школу—адказ можа быць адзін:

— Пэсталёцы ёсьць нам прыклад у сваёй бязупыннай працы для дабра агульнага. Як некалі Пэсталёцы, ня гледзячы на розныя крыўды і перашкоды, гарнуў да сябе ўсіх бязпрытульных, бедных дзяцей— каб выхаваць іх грамадзянамі і прыгатаваць да практычнага жыцьця, гэтак каб кожны сьведамы шчыры Беларус, не зважаючы на ўсе перашкоды, прасякнуўшыся да максымума магчымасьці, прынёс у ахвяру свае здольнасьці і матэр'яльныя магчымасьці на адбудову роднае беларускае школы.

Пэсталёцы паказаў яскрава, што нават не патрэбны вялікія сродкі, патрэбная толькі добрая воля. Гэтую добрую волю ў пабудаваньні беларускае роднае школы, трэба верыць, Беларусы маюць!

АЎГЕНІ БАРТУЛЬ.

# Разаб'ю я ліру маю...

„І адпіхнутая ёсьць ад спакою
душа мая, забыўся добрае".
(Трэны Ярэмія, раздзел III, верш 17).

Разаб'ю я аб камень прыдарожны ліру маю, струны радасьці з сумам парву. Радасьці няма... Загудзяць жаласна струны сарваныя, песьню жальбы і тугі векавечнае засьпяваюць.

Няма радасьці для нас, пацеха для нас — праступак. Навакол нас бяды і цярпеньне людзкога мора крывавае разьлітае, з стогнам і пракляцьцем долі ўздымаюцца хвалі яго асьвечаныя зарою мукаў бесканечных.

Праступкам будзе, калі мы аддаючыся ўласнаму шчасьцю хоць на хвілю забудзем, што Народ наш у няволі. Праступкам будзе, калі раскошны звон шчасьця асабістага заглуша звон хваляў цярпеньня людзкога.

Мы не належам да сябе! Шчасьце агульнае будзе шчасьцем нашым. Дух творчы ўзбудзіць нас і з сілаю кіне да творчае працы,— працы над шчасьцем нашага Народу і ўсей людзкасьці.

Аскеза патрэбная нам, сіла волі, сіла жывая павінна скупіцца ў адзін магутны высілак — тварыць шчасьце для ўсіх!

Шчасьце ўсіх — шчасьце маё!

І сілы ўсе, істоту сваю скіруема малітваю да будучых сьветлых дзён шчасьця людзкога, ськіруем да вялікага мамэнту адраджэньня сьвету.

Прыдзі, прыдзі вялікая хвіліна, мы чакаем цябе; сьвет даўно чакае цябе, Бацькаўшчына мая чакае цябе, яна прыгатаваная да ўваскрасеньня, яна шмат улажыла ў скарбніцу людзкасьці, яна шмат аддала ў ахвяру і мы дзеці яе — сябе ў ахвяру зможам даць для шчасьця яе, для шчасьця ўсіх!..

Народзе наш, прысягаем Табе шумам ніў родных, усходам сонца— сымбалям Твайго адраджэньня; прысягаем на хаты старыя, мохам парослыя, на магілы - курганы слаўных прадзедаў нашых, што мы — Твае непадзельна, толькі Твае.

Думка наша, мрыя наша—гэта Ты. Адкідаем усё і ідзем служыць Табе. Народ наш—і ўсё! Служэньне яму—вось мэта жыцьця нашага!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І вялізарны молат працы з гордым гукам падымецца ў нашых руках, разаб'е аковы людзкасьці і Твае Народзе наш. Разсеюцца іскры навакол, загудзіць гарно. У вагні і муках народзіцца сьвет новы, сьвет сапраўдных людзёў, а не рабоў пахіленых, якія пад звон золата, пад сьмех распусты, пад стогны роспачы гнуць пакорна каркі прад няволяй сваей.

І народзіцца сьвет новы і магутны і Ты Народзе мой увойдзеш, як частка яго, ў сям'ю людзей вольных і шчасьлівых.

Дык ёсьць дзеля чаго жыць, мэта ёсьць! — Тварыць фундамэнты будучыні.—Нас вядзе ўперад да зямлі абяцанае зорка цудовая, яна пасовываецца ўперад.

Вялізная маса, вялізарны натоўп ідзе за ёю, ідзе да лепшых дзён жыцьця новага. Горда грымяць шагі пад грукат молатаў, пад звон косаў і сярпоў у чыстым полі. Мы ідзем разам з імі, ідзем крок у крок. Сваё шчасьце асабістае пакінулі далёка. Мы хочам шчасьця ўсіх, бо мы—частка ўсяго.

Куды мы ідзем? Што чакае нас?—Мы ідзем у сьвет новы, у краіну працы і шчасьця.

Яна далёка ад нас... можа мы ўпадзём змучаныя і вараньнё з дзікім рогатам будзе разносіць косьці нашыя, але дзеці нашыя дойдуць туды, дзе гора ня будзе.

Чалавек магутны, ён зломіць усе перашкоды. І горды я, што Народ мой ідзе да будучыні сьветлае разам з людзкасьцю. Узойдзе сонца, узойдзе можа ў крывавае імгле, але ўзойдзе і прывітае нас.

Дык да працы!

І чую я сілы, сілы магучыя грудзі ўздымаюць.

Трэба зламаць апор долі ліхое. Жыцьцё трэба перабудаваць!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вёска шэрая, хаты пахілыя і панурыя, а там дзеці бяды векавечнай песьні свае смутку і жалю поўныя пяюць. Над калыскай дзіцяці матка нізка схіліўшыся песьню нядолі і няшчасьця пяе. Разцягнуліся шнурамі-істужкамі ніўкі вузенькія, стогн-крык панад борам гудзе. — Зямлі няма!.. А зямля ёсьць... і яе няма... Пот крывавы ліецца ад сьвітаньня да цёмнае ночы, нівы потам зьліваюцца. Працаю шчырай вітае поле роднае сын працы і нядолі—селянін-рабачай. Але вызыск яму на прывет яго ў вочы плюе, плюе сьмехам дастатку і сытасьці.

Сыны вёскі ў места шэрае цягнуць, там хлеба шукаюць, там шчасьця шукаюць...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Разлягліся маестатычна палацы вялікія, сьветласьцю электрыкі вочы сьляпяць, музыка гулка гудзе, віно льецца, распуста агідаю расьцьвітае.

Грошы, грошы і грошы мятусяцца, за грошы тутка ўсё: і ласкі і каханьне і шчасьце!

Горад шалее, пеніцца ў танцы шалёным, музыка, віно й кабеты гэты шал да найвышэйшае ступені ўзносяць. Яны цешуцца, яны танцуюць свой танец, але танец апошні!..

У невялічкіх норах-хатынках імглою-дымам спавітых, якія плямаю ліпнуць да палацаў, кроў'ю харкаюць яны, тыя,—якія твораць гэтую роскаш,—сыны працы, галодныя і абарваныя.

Ад сьвітаньня да зьмярканьня гудзяць стальныя волаты, прадукуючы і творачы вартасьці. Гудкам фабрыкаў, працы непасільнае, грохату машын, песьням шасьцёрак уторыць сьмех шаленства тых, якія працы ня знаюць.

Рукі чорныя, змучаныя, змазоленыя, рукі ня знаючыя супачынку— твораць і твораць...

А там па іх працу цягнуцца выхаджаныя, белыя рукі, пярсьцёнкі на іх гарацць крыўдаю чужой. Яны ўмеюць рваць, рваць—дзе можна і што можна—і яны рвуць.

Пануе страшная істота, пануе непадзельна і ўладарна, — пануе над сьветам бог страшны і агідны — Вызыск.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але йдзе час новы і сьветлы, адновіцца зямля і народзіцца на нова сьвет. Запануе шчасьце для ўсіх. Упадзе і загіне бяда векавечная. Паўстане і Народ мой, паўстане да працы вялікае.

Вільня.
1.X.-28 г.

* * *

Цэлую зімачку буду чакаць
Бураў вясеньніх і толечкі зоркі
Ўсьмяхнуцца вясною, пайду заклікаць
Вясну на сялянскія ўзгоркі.

Выляплю жаўранка з песьняў — тварэньняў...
Кіну у неба і ён зазьвініць,
Даль адгукнецца і шум Прабуджэньня
Зьнекуль .. з далёк... даляціць ..

П'яна-сьняжыстыя пройдуць мяцеліцы...
Ня будуць злаваць над зямлёю,
І ў песьнях маіх веснавіста расьпеніцца
Адзвон пераможнага бою.

*Хвёдар Ільяшэвіч.*

* * *

Калі ў муках тамлюся душою змадзелай,
Або гора дазнаю людзей.
У душы ты мне зьявішся красачкай белай,
Абразоў ўсіх ясьней і чысьцей.
Хай-жа людзі у грошах знаходзяць патолю,
Хай маняць—не страшна іх мана
Ты адна мне стварыла харошую долю
І надзею дала мне адна!
Ты адна мае мукі, цяжкія сумлівы,
Разганяла, як ймглу або сон,
І ўлівала спакою струмень дзіўна-жывы,
Што ніколі ня згубіцца ён.
І цяпер той струмень у душы сатварае
Быццам ясныя, ціхія сны,
Што ня грошы, мана, а надзея сьвятая—
Беларускай жыцьцё стараны.
Бобраз ціхі і ясны твой—нават и хмары
Разганяе, як сонца прамень,
І стварае ў прыродзе вялікія чары —
Цішу, радасьць і ясную цень.
А калі ты пачуеш аб долі народу,
Запаляюцца вочы агнём,
І гарыш ты жаданьнем ісьці за свабоду,
І усе мы з табою пайдзём.
І тады ты здаешся ахвярай сьвятою
За народу страшны заняпад,
І, здаецпа, парушыць сваею рукою,
Сваей воляю сотні грамад!
Ты адна у душы мне навекі ўпісала
Ідэал ціхі, чысты, ясны,
І ў праменьнях людзкога таго ідэалу
Мне шляхі да ідэі відны.
І таму, хай-жа бура шуміць і шалее,
Хай-жа здрадзяць ўсе людзі мяне!
Ты жывеш,—і сьвятло у душы прамянее,—
Сэрца ў веры, надзеі, агне!

*Г. Вялецкі.*

# Скрыпка

(насьледаваньне).

На заходзе зара дагарала,
Чароўнае гучнай вясны,
Ноч паволі зямлю агартала...
Гукі скрыпкі скульсь былі чутны
І ліліся чароўныя гукі,
Яны сумам, жудою плылі,
Як-бы нехта ламаў свае рукі,
Жыцьця праклінаючы дні.
У іх нечае хворае сэрца,
На заўсёды хавала парыў,
І стагнала яно ў паняверцы,
Сьмерці цень яго нібы абвіў.
Чыесь грудзі ад мукаў балелі,
У іх чыста стагнала душа, —
Што спагады сабе ня сустрэла.
Супакою ў людзёх не знайшла.
І плылі, ўсё плылі тыя гукі,
Недзе ўвысь, у блакітны прастор.
Хтосьці скаржыўся, ў неба слаў мукі,
Там да Бога, да ангелаў зор.
Нехта сьмела бяз жалю, бяз болю
Слаў на землю пагарду, праклён,
А істотаю ўсей рваўся к волі
З грудзёў шлючы жудасны стогн.
Сумавала душа, білась сэрца,
Ўсё хацела зараз агарнуць,
Палажыці канец паняверцы,
Свабодна рвучыся ўздыхнуць.
На заходзе зара дагарала
Чароўнае, гучнай вясны
Ноч паволі зямлю агартала
Гукі скрыпкі ўсё былі чутны.

*Міхась Тулейка.*

Вільня, 1. VII. 28.

# Пparticularжытае.

Адзінока стаю у вячорнай цішы,
Спакой навакола—хачу адгадаць...
Пагодна і лёгка ў збалелай душы;
Ня рвецца ў даль сэрца, ня хоча стагнаць.

Ўчуваюся ў голас натуры — тварэньня:
Шапцяць навакола таёмна лісты,
Цалуюцца ў ласках, у згодзе, ўзаемна;
Ня знаюць ілжы—той людзёў ліхаты.

Па іх бледны месяць гуляець спакойна,
Там поўзаець, лашчыцца коскамі—чар,
На хвілю ў крадзе яго хмарка, павольна
Праплыўшы ў гары няпрыкметна амаль.

Ўсё ціха! Няма тут звычайнага віру
Жыцьця нешчасьлівых, бяздольных людзёў,
Заводзіць тут муза бясклопатна ліру
Адвечнае праўды цуд-песьню бяз слоў.

Ліюцца ў такт дзіўна-чароўныя казкі
З высі срыбных зораў, блакітаў нябёс,
Штось кажуць на вуха таксама і краскі,
Бадай пра шчасьлівы, пра лепшы свой лёс.

Пад ветрыку подзьмух галоўкі схіляюць,
Вочкамі коляраў шчыра глядзяць.
Сьмяюцца салодка, ў душу заглядаюць,
Ці-ж здоляюць раны яе адгадаць? —

Старыя дубы, векавечныя ліпы,
Ў паўсьне затаіліся—ціха шумяць,
Шукаю тут думкамі тайніцы быту,
Якое ніхто мне ня хоча сказаць

І так на лады ўсе свае думкі меру;
Забілася сэрца ў грудзёх нат шпарчэй,
Стаю ўсёж ў спакоі, шукаю ў што верыў;
Чым жыў—аб чым сьніў, лятуцеў я раней

Але—ша! Салавей недзе ў гушчы заліўся,
Завёў песьню каханьня—спакой перарваў;
Ўспаміны прышлі—сум у сэрца уліўся...
Эх! і я-ж даўней шчыра і сьвята кахаў...

І дзе-ж ўсё цяпера?—тужліва пытаю,—
Каханьня сьвятога дзе сьветлыя дні?..
Прыйдзі, прыйдзі мілая, зноў я чакаю,—
Вярні ўсё назад, прыгалуб, прыгарні!
Прыгарні як даўней да гарачага сэрца,
Анельскімі ласкамі душу сагрэй;
Бязконцую песьню каханьня, бяз сьмерці,
Засьпявай,—як сьпяваў яе нам салавей?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Атказу няма! Салавей кончыў трэлі,
Як калісьці адно срыбны месяц глядзіць,
Успаміны салодкія сном адляцелі
А сэрца ўсё-ж б'ецца і ў суме дрыжыць.

*Міхась Тулейка*

Вільня, 2. V. 28 г.

# З рэстаранных матываў.

Рэстаран:
Джац-банд іграе
Гучна так;
Барабан
І кастаньеты
Выбіваюць такт.
Саксафон
Шалее, ўторыць
Пяе ў тон;
Сьвісьне гулкая сырэна
Вальс-бостон.
Нэрвы пружацца,
Шалеець
Прудкі крові ток...
Нешта новае іграюць,
Рэзнулі фокстрот
Цудовы танец йграюць ёмка
І скрыпка равецца,
Выводзіць звонка
Фокстрот... фокстрот...
Цяпер іграюць ўсюды і заўсёды
Джімі і фокстрот,
І чарлестон
Сьпявае скрыпка, кастаньеты,
вые саксафон.

*Аўг. Бартуль.*






Урад Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў:

1) Вячаслаў Лаўскі — старшыня 2) Д-р Тамаш Грыб — віцэ-старшыня і кіраўнік прэсавага аддзелу, 3) Францішак Грышкевіч — сэкрэтар 4) Адольф Клімовіч — кіраўнік аддзелу міжнародных зносін, 5) Васіль Русак — кіраўнік эканамічнага аддзелу.




Урад Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні:

1) І. Гагалінскі—старшыня, 2) Ст. Станкевіч—сэкрэтар, 3) М. Амэльяновіч — скарбнік, 4) А. Бартуль і 5) Я. Ермаковіч — сябры.

## ВОЛЬНАЯ ТРЫБУНА.

# Аб патрэбе стварэньня студэнскай меншасьцёвай арганізацыі.

Характэрнай рысай студэнства нацыянальных меншасьцяў Польшчы ёсьць тое, што яно ізалёвана зусім ад сябе, да сяньняшняга дня ня маець лучнасьці паміж сабою на грунце супольных і балючых справаў, на грунце сконсолідаваньня сілаў і ўзаемапазнаньня. Ніхто дагэтуль нат' і не закрануў гэтакай важнай справы, ніхто не падняў пытаньня, якім спосабам дайсьці да ўзаемнага паразуменьня, каб супольнымі скоордынаванымі сіламі, хоць часткова, выращаць нацыянальныя праблемы. Ніхто ня можа напэўна казаць, што нацыянальныя імкненьні меншасьцяў у Польшчы зусім аднальковыя, — ўжо нават з увагі на рожнае грамадзкае палажэньне ня можна цьвердзіць гэтага, але ўсёжтакі з пэўнасьцю можна сказаць, што ёсьць дужа шмат справаў, якія павінны супольнымі сіламі выращацца. Без прыгатаваньня, гэта значыць без узаемнага пазнаньня, (на адным арганізацыйным пункце) гэтага зрабіць ня ўдасца. Тут патрэбна такая арганізацыя студэнтаў нацыянальных меншасьцяў Польшчы, якая якраз і прыняла-б на сябе выпаўненьне тых задачаў і абавязкаў,—аднолькава абходзячых студэнства ўсіх нацыянальных меншасьцяў. Мэтаю гэтае арганізацыі было-б: 1) зблiжэньне ўсіх студэнтаў нацыянальных меншасьцяў Польшчы паміж сабою і ўзаемнае пазнаньне сябе, 2) зразуменьне справаў аддзельных груп нацыянальных, 3) сконсолідаваньне сілаў і 4) выращэньне супольных справаў супольнымі сіламі.

Адкідаючы рожніцу з пункту гледжаньня клясавага, патрэбна была-б гэная арганізацыя пераважна выключна для нацыянальных пытаньняў. (Гэта яе павінна-б стварыць і выткнуць для яе просты шлях).

Ніхто з студэнтаў нацыянальных меншасьцяў ня можа пахваліцца поўным здабыцьцём сваіх нацыянальных правоў і забесьпячэньнем сваіх патрэбаў як у Польшчы таксама і на міжнародным форуме. Праўда, кожын меньшасьцёвы студэнт ёсьць аднальковым грамадзянінам на сваей вучэльні, але яго духовыя нацыянальныя патрэбы ўсёж незадавольненыя. Каб задаволіць свае інтарэсы, трэба іх зразумець і супольна іх рашаць. Разтрэсянымі сіламі ня можна дабіцца таго, што можна было-б зрабіць йдучы адзіным фронтам, ўзаемна памагаючы адзін другому ў сваіх слушных, але не зразумелых для пануючых нацыяў дамаганьнях. Гэта зразумела. Такая створаная студэнская меншасьцёвая арганізацыя была-б сілай, з якой кожны мусіў - бы лічыцца. Каб гэтая справа, — справа стварэньня супольнай меншасьцёвай студэнскай арганізацыі,— не выглядала на ўтопію, а на нейкую рэальную магчымасьць, скажу аб спосабах яе зьдзейсненьня: Студэнскія саюзы паасобных нацыянальных меншасьцяў Польшчы, цераз сваіх дэлегатаў, выбраных у роўнай лічбе

ад кожнага, завязваюць агульную меншасьцёвую конфэдэрацыю студэнтаў; вядзеньне працы ў гэтай конфэдэрацыі павяраецца ўраду, выбранаму з паміж сябе—дэлегатаў,—у які-б уваходзілі прадстаўнікі студэнтаў усіх нацыянальных меншасьцяў, па аднаму ці па два ад кожнае; Урад конфэдэрацыі склікаў-бы штогодна кангрэс, зложаны з прадстаўнікоў, у роўнай лічбе, ад кожнае меншасьці; кангрэс выбіраўбы з паміж сябе ўрад на наступны год, вытыкаючы яму шлях працы, ухваляў-бы бюджэт на выдаваньне супольнага органу і даконваў-бы штогод выбару дэлегатаў на С. І. Е. ў роўнай лічбе ад кожнае нацыянальнае меншасьці, і вырашаў-бы ўсе іншыя справы арганізацыі.

Гэтакі больш менш быў-бы плян зьдзейсьненьня гэнае арганізацыі.

Думку стварэньня вышэй апісанае арганізацыі і спосабы яе зьдзейсьненьня даю пад дыскусыю. Хай заінтэрэсаваныя з свайго боку выскажуць свае погляды адносна гэтае справы.

*Т. М.*



Група Студэнтаў з Белар. Студ. Саюзу

# Тлумачэньне замест адказу.

Выхад у сьвет 1-га, а асабліва 2-га нумару „Студэнскай Думкі“ выклікаў у беларускім грамадзянстве жывую абмену думак. На бачынах беларускай прэсы былі выказаны пагляды больш і менш для нашай часопісі прыхільныя. Як і трэба было спадзявацца ад *незалежнай* крыткі.

Выходзячы з залажэньня, што рэчовая крытыка ёсьць таксама супрацоўніцтвам, шчыра дзякуем усім, хто з добрай воляй нашымі пачынаньнямі пацікавіўся, ды думкі свае падаў да публічнага ведама і ўжытку.

Адначасна ўважаем за свой абавязак правясьці на належную меру некаторыя факты або зачэпленыя крытыкай, або з яе выплываючыя. І так:

1) *Праўдай* ёсьць, што студэнства наша выкоўваючы сваю думку „даволі ўважна прыслухоўваецца да голасу старэйшага грамадзянства“ і *нязгодная* з *праўдай* ёсьць спроба правесьці штучны падзел нашага студэнства на „віленцаў“ і „пражакоў“.

Уважаем бо сябе за адну сям'ю беларускай моладзі і адзін маем ідэал—*Вольную Беларусь*. Той-жа факт, што ў апошнім нумары „Ст. Д.“ было „пражскіх“ матэр'ялаў менш, тлумачыцца толькі тым, што матэр'ялы з Прагі дайшлі за позна. Нічога больш.

2) Ставіцца нам паважны закід аб кірунку ідэолёгіі. Шкада толькі, што не консэквэнтна, бо побач сябе знаходзяцца гэткія сказы: а) „няма... думаючых беларускіх студэнтаў“, б) „агульныя рысы... думаньне старымі катэгорыямі“. А знача... *беларускае студэнства думае, мае ідэолёгічныя катэгорыі!*

Констатуем, што аснаўным матывам нашае ідэолёгіі ёсьць вызвольная—да ўсіх дэталяў—думка беларускага народу. Спадзеймася, што на гэтым згодзімся ўсе.

Разыходжаньне можа быць толькі ў мэтодах. Але мэтоды і ідэолёгія—дзьве розныя рэчы. І ня віна наша, а заслуга ў тым, што ставім і кіруемся тут дэвізай: „адзін за ўсіх і ўсе за аднаго“, замест услужліва сэрвіраванай і нажаль „старэйшым грамадзянствам“ аж да абсурду выхвалянай, ды што ячшэ горай, — практыкаванай, дэвізы: „бой усіх—проці ўсіх“.

Скажам больш! Першым сваім пасьля сумленных студыяў абавязкам уважаем — *праводжаньне усенацыянальнага аб'яднаньня.* Перадусім у радох студэнства. Вылучаем дзеля гэтага з свае праграмы ня толькі ўсякую партыйнасьць, але й самую палітыку наагул. Усе-ж жыцьцёвыя праблемы хочам рашаць на падставе грунтоўных, толькі навукова абаснаваных прадпасылак, ды рэальна-жыцьцёвага досьледу, што пры гэтым не дамося зьбянтэжыць рознымі анонімнымі, а знача і безадказнымі падсказаваньнямі са стараны, — больш як ясна. Гэтага вымагае наша акадэмічная чэсьць.

На пасьледак зацеміць хочам, што лепшай ёсьць для нас крытыка і хоць няпрыхільная, але рэчовая, чымся незаслужаныя пахвалы.—

Паводле гэтага кіруемся, ды будзем кіравацца і гэтак-жа хочамо быць разумелымі. — *Рэдакцыя.*

# Агляд дзейнасьці Беларускага Студэнскага Саюзу за 1927 — 28 акадэмічны год.

Пасьля хвілёвага заняпаду ў працы Б.С.С. у працягу 1926/27 ак. году, у наступным годзе (1927/28) дзейнасьць Саюзу пашырылася. Агульная праца Саюзу адразу пайшла ў некалькіх кірунках: у выдавецкім, літэратурна-навуковым, тэатральным і інш.

У гэтых кірунках дзейнасьці знаходзілі сабе працу жывейшыя сябры, кожны паводле свайго замілаваньня й здольнасьці.

1) *У кірунку выдавецкім*, зазначыць трэба, — прыходзілася змагацца з вялікай перашкодай, якой ёсьць нашая матэр'яльная беднасьць, дзякуючы чаму ад пачатку году да сягодня выйшлі ў сьвет толькі тры нумары часопісі (разам з гэтым нумарам). Аднакжа і гэтыя тры нумары паказалі, што мы не паддаёмся расчараваньням з прычыны матэр'яльных перашкодаў, але ў меру магчымасьцяў стараемся іх адалець.

2) *Галіна літэратурна-навуковая.* Беларускі Студэнскі Саюз лічыць сярод сваіх сяброў некалькі маладых паэтаў, пераважна пачынальнікаў на літэратурнай ніве, якія ў мінулым акадэмічным годзе зрабілі сваё публічнае выступленьне, ладзячы дня 28. II. 28. літэратурны вечар.

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць рэфэраты, ладжаныя Б. С. С. амаль што тыдзень, якія здабылі сярод беларускага грамадзянства вялікую популярнасьць, доказам чаго заўсёды вялікая фрэквэнцыя публікі. За год агулам адбылося рэфэратаў 13.

Цяпер ідуць стараньні наладзіць у найбліжэйшым часе пры Б. С. С. сыстэматычныя лекцыі беларусазнаўства, у якіх могуць прыняць удзел беларускія літэратурна-навуковыя сілы.

3) *Праца тэатральная.* У гэтым кірунку стаіць на перашкодзе заўсёды нястача ў студэнтаў часу на прыгатаўленьні спэктакляў, аднак за мінулы год наладжаны тры вялікія вечарыны, якія прайшлі з добрым пасьпехам.

4) *У кірунку самапомачы незаможным сябрам Саюзу.* Урад Саюзу леташняй восені зьвярнуўся да ўсіх самаўрадаў беларускіх земляў з просьбаю матэр'яльнае помачы. Большасьць самаўрадаў не адклікнулася на нашую просьбу, але некаторыя, пераважна наваградзкага ваяводзтва, прыхільна спаткалі нашую просьбу, і было пастаноўлена паасобнымі самаўрадамі вызначыць субсыды. Нажаль, правядзеньню ў жыцьцё пастановаў самаўрадаў перашкодзілі павятовыя соймікі, не зацьвярджаючы пастановаў самаўрадаў адносна нашае просьбы.

У мінулым годзе Б. С. С., з мэтаю шырэйшага аб'яднаньня і супрацоўніцтва з беларускім студэнствам іншых цэнтраў, увайшоў як сябра ў „АБСА“ (Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганіза-

цыяў), якое лучыць усе незалежніцкія арганізацыі беларускага студэнства.

У сёлетнім X кангрэсе „СІЕ“ (Міжнароднае Студэнскае Конфэдэрацыі) у Парыжы Б. С. С., як сябра „АБСА“ і супольна зім меўся ўзяць чынны ўдзел і з гэтаю мэтаю на кангрэс былі вызначаны два дэлегаты Саюзу. Але і тут перашкодзілі матэр'яльныя недахопы і з паездкаю з Вільні ў Парыж нічога ня вышла, аднак паміма ўсіх труднасьцяў беларуская дэлегацыя на зьезьдзе „СІЕ“ была добра абстаўлена і прынясла пажаданыя вынікі.

Пацяшаючым зьявішчам сярод сяброў Б. С. С. ёсьць нэўтральнае становішча адносна розных партыйных сварак у палітычным і грамадзкім жыцьці беларускага грамадзянства, дзякуючы чаму ўсе суладна працуюць на супольным народным грунце.

Вось больш менш у кароткіх рысах дзейнасьць Б. С. Саюзу за мінулы год. Праўда, замалая гэтая дзейнасьць, магчыма жыцьцё вымагае больш працаваць, але трэба ўзяць пад увагу так-жа й тое, што амаль кожны беларускі студэнт апрача навуковай і грамадзкай працы, мусіць уласнымі сіламі зарабляць сабе на кусок хлеба.

---

# ХРОНІКА.

— **Інаугурацыя ўнівэрсытэцкага году.** 11-га кастрычніка с.г. на ўнівэрсытэце Сцяпана Баторага адбылося ўрачыстае адкрыцьце 1928—29 акадэмічнага году. Уступаючы рэктар праф. Пігонь зрабіў вялікую справаздачу з розных галін жыцьця і дзейнасьці ўнівэрсытэту за мінулы год.

Паміж іншым праф. Пігонь кажучы аб студэнскіх выдавецтвах успомніў толькі часопіс „Alma Mater Vilnensis“, якая ёсьць органам Студэнскай Братняй Помачы, куды ўваходзяць усе студэнты, бяз розьніцы прыналежнасьці нацыянальнай, апроч студэнтаў Жыдоў.

Як ведама, Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні ўжо 4-ты год выдае часопіс „Студэнскую Думку“, а раней выдаваў — „Наш Шлях“.

Ці-ж аб гэтым ня ведаў рэктар Пігонь, калі ня ўспомніў аб нашым выдавецтве?... Характэрна!...

На новы акадэмічны год выбраны рэктарам кс. др. Фалькоўскі, якому ўступаючы рэктар Пігонь (пясьля сваей справаздачы) ўручыў адзнакі рэктарскай улады.

— **Лекцыі з беларусазнаўства пры Б. С. С.** Урад Беларускага Студэнскага Саюзу, зважаючы на патрэбу шырэйшага і грунтаўнейшага абзнаямленьня грамадзянства з беларусазнаўствам, на адным з апошніх сваіх паседжаньняў пастанавіў зарганізаваць цыкль публічных лекцыяў з розных галінаў беларусазнаўства. Дзеля гэтай мэты пастаноўлена запрасіць у характары прэлегэнтаў паважныя навуковыя

сілы, як гр. Ант. Луцкевіча, паслоў Дварчаніна і Станкевіча, кс. кс. Ад. Станкевіча і В. Гадлеўскага, гр. гр. Самойлу, Грышкевіча, Савіцкага і іншых.

Першыя дзьве лекцыі ўжо адбыліся ў нядзелю 14. X. 28 — на тэмы: 1) „Галоўныя мамэнты беларускага адраджэнскага руху“ — гр. Ант. Луцкевіча і 2) „Мейсца крывіцкае (беларускае) мовы сярод іншых славянскіх моваў і час яе ўзьніку“—д-ра Я. Станкевіча.

Лекцыі адбыліся ў салі Віл. Бел. Гімназіі (Вострабрамская № 9). Прысутных слухачоў было шмат.

— **Промоцыя.** У найбліжэйшым часе адбудзецца на віленскім унівэрсытэце ўрачыстая промоцыя на M. U. Dr. — (доктара ўсіх лекарскіх навук) гр. гр. Я. Жука А. Пятроўскага, студэнтаў мэдыцыны і сябраў Бел. Студ. Саюзу.

— **Прыплыў новых сяброў у Б. С. С.** З пачаткам сёлетняга акадэмічнага году заўважаецца даволі вялікі прыплыў новых сяброў, што сьведчыць аб пашырэньні беларускай нацыянальнай сьведамасьці сярод нашае моладзі.

— **Справа рэдактара „Ст. Думкі“.** 2. X. г. г. на паседжаньні Рэдакцыйнай Калегіі „Ст. Думкі“, а 9. X. г. г. на паседжаньні Ўраду Бел. Студ. Саюзу — дзеля адмовы кал. Гагалінскага быць рэдактарам „Ст. Д.“ у далейшым часе — выбраны і зацьверджаны рэдактарам „Ст. Д.“ сябра Рэд. Калегіі кал. Я. Шутовіч. Кал. Я. Шутовіч даў сваю згоду абняць становішча рэдактара.

Прычынай адмовы кал. Гагалінскага быць рэдактарам ёсьць тое, што ён у хуткім часе канчае віленскі ўнівэрсытэт.

— **Спэктакль-вечарына Б.С.С.** Дня 22-IX адбылася, ладжаная Беларускім Студэнскім Саюзам, спэктакль-вечарына. Згуляна была п'еса Ул. Гутоўскага „Сурдут і Сярмяга“, апрача таго праграму папоўнілі: дэклямацыі і хор пад кіраўніцтвам гр. Шырмы.

Трэба зазначыць, што гэта была адна з найпаважнейшых студэнская вечарына.

Беларускі Студэнскі Саюз у новым акадэмічным годзе мае зьвярнуць найвялікшую ўвагу на тэатральную дзейнасьць. У найблізэйшым часе праектуецца пастаноўка п'есы Ул. Галубка „Апошняе Спатканьне“,—прыгатаваньні да якой ужо пачаліся.

— **Рэфэраты** пры Б. С. С. 28-IV-28 адбыўся рэфэрат к. Г. Вялецкага на тэму: „Лірычная Творчасьць Кт. Сваяка“. Дня 6-X-28 адбыўся рэфэрат яго-ж на тэму: „Патрэба працы беларускае моладзі“.

— **Дзяжурствы ў** Б. С. С. Сэкрэтар'ят Беларускага Студэнскага Саюзу (вул. сьв. Ганны № 2) адчынены што аўторкі, чэцьвяргі і суботы—ад гадз. 6—8 веч., куды і просяцца зьвяртацца за ўсякімі інфармацыямі заінтэрэсаваныя.

Урад дзяжурыць што суботы ад гадз. 6—7 веч.

— **Агульны сход сяброў Б. С. С.** Дня 20 кастрычніка, а гадз. 6-ай вечарам у памешканьн Саюзу (Вільня, вул. сьв. Ганны № 2) адбудзецца гадавы агульныісход сяброў саюзу.

У выпадку браку кворум сход адбудзецца правамоцны незалежна ад ліку сяброў таго-ж дня а гадз. 7-ай вечара.

**— Гдзе-ж дапамога?!** Беларскі Пасольскі Клюб з мэтай дапамагчы беларускаму студэнству ў высылцы ім сваіх прадстаўнікоў на кангрэс Міжнароднай Студэнскай Конфэдэрацыі ў Парыж, які адбыўся ў жніўні месяцы г. г.,—асыгнаваў на мэты падарожныя дэлегатаў 200 зл.

Тымчасам Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні да сёньняшняга дня нічога аб гэтай грашовай дапамозе ня ведае, бо грашэй не атрымаў. Дык цікава, гдзе падзеліся гэтыя грошы? А мо' атрымала цэнтраля АБСА? А мо' гэта звычайная абяцанка--цацанка?!.

**— Новыя сілы.** — Вясной с. г. скончылі навуку ў чэскіх высшых школах студэнты: Міхась Гузоўскі (б. старшыня АБСА) і Міхась Станкевіч — з тытуламі інжынераў аграноміі—агранамічны адзел політэхнікі. Пётра Астапкевіч (кончыў з адзнакай) з тытулам інжынера-будавальніка — камунікацыйны аддзел політэхнікі, Кастусь Шышкоўскі — з тытулам M. U. Dr.—лекарскі факультэт унівэрсытэту.

З гэтых чатырох толькі інж. М. Гузоўскі вярнуўся ў Заходнюю Беларусь (Вільню), д-ру Шышкоўскаму і інж. Астапкевічу паварот забаронены, а інж. М. Станкевіч выехаў у Радавую Беларусь.

— У гэтым годзе скончыла Украінскі Пэдагогічны Інстытут у Празе гр. Сазановіч-Орса. У пачатку верасьня г. г. выехала гр. Саз.-Орса з Прагі ў Заходнюю Беларусь. Гдзе знаходзіцца пасьля прыезду на Бацькаўшчыну — ня ведама.

— У месяцы жніўні с. г. скончыў політэхніку ў Брне (Моравія) Аркадзь Міцька—з дыплёмам інж. хіміі. Інж. Міцько мае намер у хуткім часе вярнуцца на Бацькаўшчыну — у Заходнюю Беларусь.

— У месяцы кастрычніку с. г. скончыў унівэрсытэт у Празе гр. М. Ільяшэвіч — з тытулам доктара філёзофіі. Д-р Ільяшэвіч прыедзе ў хуткім часе ў Вільню.

— У чэрвені месяцы с. г. скончыў віленскі ўнівэрсытэт з тытулам M. U. Dr. — Балеслаў Грабінскі — сябра Белар. Студ. Саюзу ў Вільні.

— Абсолютор'юм атрымаў гр. Кісель, студэнт віленскага ўнівэрсытэту — (аддзел гісторыі гуманістычнага факультэту), — у чэрвені месяцы с. г.

**— IV-ты Зьезд А. Б. С. А.** Згодна з пастановаю прэзыдыуму АБСА. з дня 29.IX 20, IV-ты зьезд АБСА склікаецца на дзень 16 і 17 лістапада с. г., у Прагу Чэскую.

**— X-ты кангрэс С. I. E. і беларускае студэнства (А. Б. С. А.).** Дзесяты кангрэс Міжнароднай Студэнскай Конфэдэрацыі (С. I. E.) адбыўся сёлета ў Парыжы ад 11-га да 24-га жніўня. Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў дэлегавала на гэты кангрэс, як надзвычайнага прадстаўніка, інж. Пётру Кажэўнікава, які і злажыў ад імя АБСА на пленарным паседжаньні С. I. E. 16 жніўня падробны рэфэрат аб чыннасьці і стане беларускага студэн-

ства за мінулы 1927-28 школьны год. У разьвіўшайся пасьля беларускага дакладу дэбаце інж. Кажэўнікаў шчасьліва абараніў усе беларускія нацыянальныя пастуляты.

Дальшым шчасьлівым здабыткам беларускага дэлегата было актыўнае выступленьне ў т. зв. славянскай камісіі, дзе ўрадовай мовай славянскай на чародны год выбрана мова чэская.

На наступны 1928-29 школьны год звышаны сяброўскія складкі на 50 проц. Студэнскія легітымацыі С. І. Е. ападаткаваны ў разьмеры 1-га швайцарскага франка за штуку.—Старшынёю С. І. Е. на наступны 1928-29 школьны год стаўся Англічанін кал. Багналь. Чародны гадавы кангрэс С. І. Е. мае адбыцца ў Будапэшце—ў Вугаршчыне.

**— А.Б.С.А. на пацыфістычным кангрэсе.** Арганізацыйны Камітэт па скліканьню міжнароднага кангрэсу пацыфістычнай моладзі зьвярнуўся да АБСА з просьбай прыняць учасьце ў сёлетнім (17-26/8) кангрэсе ў Эердэ (Голяндыя). АБСА ў прынцыпе на гэта згадзілася, але дзеля нястачы матэр'яльных сродкаў — дэлегата паслаць не змагло. Паслала затое прывет з мэмор'ялам, у якім выказала сваё становішча да пытаньня аб пацыфікацыі сьвету.

**— Міжнародная выстаўка друку ў Кёльне (Нямеччына).** Сёлета ад траўня да кастрычніка месяца адбывалася ў Кёльне міжнародная выстаўка друку, у якой быў арганізаваны і аддзел друку акадэмічнае моладзі. Міжнародная Студэнская Канфэдэрацыя (С І Е), якой сябрам ёсьць і Аб'яднаньне Белар. Студ. Арганізацыяў, прыняла ўчасьце ў гэнай выстаўцы, ды запрапанавала Аб'яднаньню Бел. Ст. Арг. прыслаць на выстаўку друкі беларускае акадэмічнае моладзі.

Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні супольна з цэнтраляй АБСА выслалі на выстаўку ўсе магчымыя друкі беларускага студэнства.

Такім спосабам і друкі беларускае акадэмічнае моладзі былі рэпрэзэнтаваны на выстаўцы.

---

# Ахвяры на фонд „Ст. Думкі".

## (СПРАВАЗДАЧА).

На выдавецкі фонд „Студ. Думкі" ад Новага Году да 1-га лютага ахвяравалі:

Па падпісному лісту № 1. Асобы: Б. — 4 зл., кс. Я. Бароўка — 5 зл., Шнаркевіч—1 зл., д-р Туронак—5 зл., Красоўскі—1 зл., Савіцкі—1 зл., Любецкая—50 гр., Ф. В.—1 зл., К. Крук—1 зл., NN—50 гр., П. Кр.—50 гр., А. Л.—20 гр., М. Б. і Р.—50 гр., Грыгарук—50 гр., А. М.—50 гр., Пяткевіч—50 гр., Пятк.—1 зл., А. К.—50 гр., NN.—1 зл., Ст.—1 зл., У.—1 зл. Разам 26 зл., 70 гр. (зьбіраў кал. Шутовіч).

Па падпісному лісту № 2. Асобы: Паўл. — 25 зл., Т. Канапацкі—5 зл. Вярнікоўскі—5 зл., Друцк.-Падбярэскі—5 зл., Я. Яраш — 5 зл., Іўжэнка — 1 зл.. М. Дыбоўскі—1 зл., Шыбка—5 зл., Л. Міцько—1 зл., М. Станк.—1 зл., Якімовіч—2 зл. Разам 56 зл., (зьбіраў кал. Т. Куніцкі).

Па падпісному лісту № 5. Асобы: Знамяроўскі—3 зл., Я. Шурпа—2, зл., праф. Владычка—10 зл. Разам 15 зл. (зьбіраў кал. І. Гагалінскі).

Па падпісному лісту № 6.—Асобы: А. Стэповіч—2 зл. 50 гр., Г. Карузянка—2 зл. 50 гр., Дубейкоўскі—2 зл.. 50 гр., В. Станк.—1 зл. 50 гр , С. Доўнар—1 зл. 50 гр., Л. Войцікова — 3 зл., А. Стэцк — 2 зл., П. Каруза — 5 зл., Р. В.—1 зл. 50 гр., Пр. Л. Г.—1 зл. 50 гр , А. Будзько—2 зл., І. Куніцкі—4 зл., П. Булгак—2 зл., Ч. Ф.—2 зл., Матуоэвіч—1 зл., М. Пераход—1 зл., Сьвірэпа—1 зл., В. Сак овіч—2 зл., Гр. Орса—1 зл., Міцкевіч—5 зл., Карэцкі—1 зл. 50 гр., NN.—1 зл. Разам 47 зл. (Зьбіраў кал. Т. Куніцкі).

Па падпісному лісту № 7. Асобы: С. П.—1 зл., В. Малей—1 зл., Ст. Станкевіч (кнігар)—1 зл. Разам 3 зл. (Зьбіраў кал. Ст. Станкевіч).

Па падпісному лісту № 9. Асобы: кс. А. Станкевіч—10 зл., Сьвістун—2 зл., В. Багдановіч—2 зл., Ф. Ярэміч—10 зл., Сабалеўскі—5 зл., Цьвірко—1 зл. 10 гр., Маразовіч—3 зл., Яковіч—5 зл., Пазьняк Андрэй—3 зл., Пазьняк Я.—2 зл., К. Пружанскі—5 зл., У.—1 зл., Ю. Юхно—50 гр., Чатырка - 1 зл. Разам 50 зл. 60 гр. (Зьбіраў кал. Станкевіч).

Па падпісному лісту № 24. Асобы: Аўг. Міткевіч—5 зл., Палуйчык—5 зал. Разам 10 зл. (Зьбіраў гр. А. Міткевіч).

Па падпісному лісту № 24. Асобы: Вайман—2 зл., К. Крук—1 зл., Т. Вярнікоўскі—5 зл., N.—1 зл., Г. К.—3 зл. Разам 12 зл. (Зьбіраў кал. Ст. Станкевіч).

Па падпісному лісту № 25. Асобы: Г. Л.—1 зл., Дук—1 зл., Н. Счэнсновіч—1 зл., А. Макарэвіч—1 зл., С. Кароль—1 зл., К. Шышк.—50 гр., Я. Гаўрылік—1 зл., Я. Пешка—50 гр., Яцына—1 зл. Разам 8 зл. (Зьбіраў кал. Куніцкі)

Па падпісному лісту № 29. Асобы: Шутовічанка—1 зл., Пазьняк—1 зл., Э. Залкінд—50 гр., З. Міхалевіч—1 зл., N.—1 зл., Х.—30 гр. Разам 4 зл. 80 гр. (Зьбіраў кал. Т. Куніцкі).

Па падпісному лісту № 31. Асобы: А. Неклюдаў—50 гр., Г. Вялецкі—2 зл., К. Трэпка—1 зл., NN.—1 зл., Н. Беляеў—50 гр. Разам 5 зл. (Зьбіраў кал. Г. Вялецкі).

Па падпісному лісту—дадатковаму—на выдавецкі фонд „Ст. Д." ахвяравалі: паслы: N.—50 зл., Стэповіч—50 зл., (2-разы па 25 зл.), Каруза—25 зл., Юхневіч—10 зл., Гр. Т.—10 зл., NN.—5 зл., Б.—5 зл., кс. Семашкевіч—5 зл., гр. Стэповіч Я.—5 зл. Разам 165 зл. (Зьбіралі к. к. І. Гагалінскі і Я. Шутовіч за час ад 24.III. да 18.XI. 28).

Рэшта падпісных лістоў ня былі ў абароце з прычыны—пэўнеж— нядбаласьці узяўшых іх сяброў.

На выдавецкі фонд „Студ. Дум." прыслалі ў гэтым годзе: кс. Смулько з Друі—7 зл., кс. Фр. Чарняўскі з Вільні — 15 зл., Тэрэшчук Ф. і Пятроўскі з Цешына—1 зл., кс Ромэйко з Задарожа—10 зл., кс. Шутовіч—25 зл , кс. П. Татарыновіч—5 зл., кс. д-р Рэшэць—4 зл., рэдактар Пазьняк—5 зл.

Усяго на выдавецкі фонд „Студ. Думкі" сабрана: па падпісных
лістох . . . . . . . . . . . . . . . . 403 зл. 10 гр.
прыслалі . . . . . . . . . . . . . . . . 72 зл. 00 гр.

Разам . . . 475 зл. 10 гр.

Усім Ахвярадаўцам на гэтым месцы шчырую падзяку складае Выдавецтва „Студ. Думкі".

# Ад выдавецтва.

З паўстаньнем Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні, паўстаў і яго орган месячнік „Наш Шлях“, а пасьля „Студэнская Думка“. Розныя каляіны пераходзілі гэтыя часопісі ў сваім існаваньні, асабліва „Студ. Думка“. Часамі і надзея гінула, што яна будзе выходзіць надалей. Падпіскі не адкуль, падмогі неадкуль. Толькі супольнымі, ахвярнымі сіламі сяброў Саюзу ўдалося нам затрымаць гэтую патрэбную як для нас, так і для грамадзянства часопісь. Сягоньня выдаем трэці ў гэтым годзе і дзесяты па чарзе нумар. Сягоньня гэта адзіны паважны месячнік з пасярод усіх тых, якія выходзілі раней і якія пагінулі з прычынаў матэр'яльнага або іншага характару.

Чым жа нашае матэр'яльнае палажэньне лепшае, калі нам ўдалося затрымаць сваю „Думку“? Не, нашае матэр'яльнае палажэньне яшчэ ў сто процантаў горшае, ад тых, хто ўжо выдаваў месячнікі. А што мы выдаем нашую „Думку“—гэта ёсьць нашаю заслугаю, ну і пэўне-ж заслугаю тых грамадзян, якія не паскупіліся ахвяраваць на выдавецкі фонд „Студ. Думкі“ крыху грошаў. Хай *дзякуй* шчырае ім будзе за гэта.

Прымаючы цяпер пад увагу нашую шчырую ахвоту выдаваць „Студэнскую Думку“ часьцей, што месяц, ня можна лічыць на гэтыя зьменныя матэр'яльныя дапамогі, — з помачу тут павінна прыйсьці сталая падпіска, усіх тых, каму дарагая родная адраджэнская справа, усіх тых, каму зразумелыя патрэбы яе.

Сілаў духовых хопіць у нас, — не хапаець толькі патрэбных на іх выяўленьне на паперы грошаў. Маладыя гарачыя сілы з шэрых, родных, закідачых вёсак зьляцеліся на ўнівэрсытэт, каб чэрпаць сьвятло вышэйшае навукі. У сэрцах іх шмат агня, шмат пачуцьцяў святых, шмат думак, імкненьняў і ідэалаў. Яны хочуць і другіх вучыць, хочуць вучыць і выхоўваць народ свой. Цяжкая праца і дорога цярністая, але гэта не палохаець іх, — зорка-думка прысьвечваець і трымаець іх: служыць роднаму Народу і яго патрэбам, злучыцца з ім духова—даць яму пажыву для душы.

Дык з заклікам гарачым зьвяртаемся да Вас, Грамадзяне, зьвяртаемся да Вас чытачы, да Вас Барацьбіты за лепшае заўтра: **падтрымайце нашу часопісь цераз сталую падпіску.** „Студэнская Думка“ не павінна памерці—яна жыць і разьвівацца мусіць!

*Выдавецтва „Студ. Думкі“.*

---

Рэдактар-выдавец Янка Шутовіч.